



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

21 чэрвеня 2019 года №25 (1260) 18+


# У вёсцы можна стаць больш паспяховым, чым у горадзе

## Камарова гэта даказвае ўжо каторы год

старонкі 2-3

Алена і Юры Трыбулевы з Астравецкага раёна займаюцца экалагічным агратурызмам. Алена захапляецца смаўжамі, якія, па словах гаспадыні, выдатна расслабляюць. У руцэ яна трымае такога смаўжа. Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

## Вуліцу стрыт-фуда рыхтуюць да адкрыцця

старонка 20

## Праз 11 год захацела вярнуць кінутага сына

старонка 4

## Стары Валожын збіралі, як мазаіку

старонка 19



ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





Святлана і Васіль Сенькаўцы з Пастаўскага раёна займаюцца вырошчваннем арганічнай грэчкі.

# У вёсцы можна стаць больш паспяховым, чым у горадзе

## Камарова гэта даказвае ўжо каторы год

**У трэцюю суботу чэрвеня ўжо традыцыйна майстры і рамеснікі збіраюцца ў Камарова Мядзельскага раёна. Менавіта тут ладзяць выставу-кірмаш «Камарова – кола дзён», якая ў 13-й раз стала святам і для гасцей, і для мясцовых жыхароў.**

МЯДЗЕЛ

Вакол стадыёна размясцілі палаткі з самымі рознымі таварамі. Майстры рыхтуюцца да кірмаша, каб паказаць у Камарове свае лепшыя вырабы. Гаспадыні і гаспадары менавіта тут абіраюць драўляны посуд, кошыкі, прылады для дома і агарода, упрыгожанні, сувеніры з нацыянальнай сімволікай, гарбаты і мёд. Кветкі, дрэвы і кусты на розны густ, цацкі і творы мастацтва. Ахвотныя маглі пачаставацца блінчыкамі з рознымі начынкамі і халоднымі напоямі. На сцэне выступалі спевакі, працавалі атракцыёны. Свята атрымалася і для дарослых, і для самых маленькіх.

Вілейскі каледж прыехаў адразу з некалькімі стэндамі – ахвотным рабілі аквагрым, прычоскі, і частавалі прысмакамі.

**Яўген Бургун** прыехаў на выставу з Чэрвеньскага раёна ў другі раз. Кажа, поспех продажаў залежыць ад надвор'я. Сёлета справы яшчэ лепш. Драўляны посуд – вельмі добры падарунак. Можна захоўваць фрукты, здобу, салат – любыя негарачыя прадукты. Госці кірмаша і цікавяцца імі, і добра набываюць.

– Паглядзіце на фота Нарачы 30-х гадоў. 15 яхт на Нарачы! А цяпер добра, калі адна. Каб былі турысты, трэба прывабліваць іх рухам, каб нешта адбывалася. Жыхарам вёскі складана вывесці тавары на экспарт, – расказвае мясцовы жыхар і дырэктар бізнес-інкубатара ў Камарове **Эдуард Вайцяховіч**. – Таму мы зайшлі па-іншаму, запрашаем турыстаў сюды, да сябе, каб тут яны набывалі нашу прадукцыю. Некаторыя майстры, напрыклад, па мэблі, прывозяць некаторыя узоры, альбомы. Казалі, што за адзін дзень кірмаша набіралі заказаў на год наперад.

**Кірмаш ладзіць Мядзельскі райвыканкам разам з «БІКамарова» і таварыствам «Экапартнёрства» пры фінансавай падтрымцы Еўрасаюза і амбасады ЗША.**

### Як Камарова стала паспяховым

Камарова – асаблівае мястэчка. У 19 стагоддзі маёнткам валодаў род графа Старжынскага. Пасля 1939 года будынкі былі без гаспадара. Але затым менавіта ў іх размясціўся сельскагаспадарчы каледж, якім кіраваў Эдуард Вайцяховіч. У 2015 годзе каледж спыніў працу. Але другое дыханне мястэчка атрымала менавіта дзякуючы намаганням Вайцяховіча і каманды яго аднадумцаў.

Яны змагаюцца за тое, каб не толькі захаваць будынкі, але і развіваць мястэчка. Панскі парк яны добраўпарадкавалі так добра, што ў 2005 годзе перамаглі ў рэспубліканскім конкурсе Мінпрыроды. І захавалі дрэвы, якім не адно стагоддзе. Сама ж сядзіба цяпер без гаспадара. Спробы актывістаў атрымаць яе ва ўласнасць і таксама добраўпарадкаваць пазітыўнага рашэння ад уладаў не атрымліваюць.

Тут ёсць вадаём, ля якога можна знайсці вінаградных смаўжоў. Іх прывез яшчэ Старжынскі.

– Яшчэ дзесяць гадоў таму мясцовыя жыхары памяталі даваенныя часы і расказвалі, як тут жылі, як усё працавала, прыгадвае Вайцяховіч. – Усе заўсёды захапляліся парадкам – як было прыгожа і хораша.

Цяпер жа парадак ствараюць мясцовыя актывісты. Яны змаглі атрымаць фінансаванне ад Еўрасаюза і амбасады ЗША на працу школы вясковага бізнеса. Бюджэт праекта 588 тысяч еўра. Гэтыя сродкі пайшлі на працу бізнес-інкубатара, які вучыў прадпрымальніцтву. А таксама на патрэбы прадпрымальнікаў – абсталяванне для іх бізнесаў.

Дзякуючы бізнес-інкубатару ў краі пабольшала прадпрымальнікаў, а іх супольнасць стала моцнай. Вось і на кірмашы ў Камарове выпускнікі бізнес-інкубатара разам са сваёй прадукцыяй былі разам.

### Ад смаўжоў да драўляных вокнаў

Пад адным навесам размясціліся выпускнікі бізнес-інкубатара. Усе яны адзначаюць, што атрымалі ў асобах былых аднагрупнікаў калег і сяброў. Важна, калі ёсць да каго звярнуцца за парадай і дапамогай. Нярэдка падказваюць адзін аднаму кліентаў. Такая згуртаванасць спрыяе таму, што бізнесмены становяцца не канкурэнтамі з пазіцыяй «абы ў суседа карова здохла». Гэта супольнасць людзей, якія рады поспехам калег, і агульная падтрымка робіць усіх уключаных у групу моцнай супольнасцю.

**Алена** і **Юры Трыбулевы** – адны з выпускнікоў «БІКамарова». Яны прыехалі з хутара Чара Астравецкага раёна. Муж і жонка займаюцца экатурызмам і аздараўленнем з дапамогай гукавога масажа. Алена захапляецца афрыканскімі смаўжамі ахаціна, якіх прадавала на кірмашы. Многіх гасцей зацікавіла экзотыка. Ахаціна патрэбуюць простага догляду – невялічкая скрынка з некалькімі адтулінамі для свежага паветра, мох і зеляніна. Калі ім ежы не хапае, яны спяць.

Смаўжоў гэтага віда не ядуць, яны здымаюць стрэс і напружанне. Трэба памыць рукі, і пасадзіць на руку смаўжа. Ён выпаўзае з доміка. Калі поўзае, то добра расслабляе рэцэптары,


Камароўская выпечка – абавязковы гасцінец.


Маёнтак графа Старжынскага ў заняпадзе, таму што яго не даюць добраўпарадкаваць.


На камароўскім кірмашы заўсёды багата прыладаў для гаспадаркі і дома.


Вілейскі каледж падрыхтаваў адразу некалькі стэндаў. Сярод іх – аквагрым.


Плеценыя вырабы традыцыйна карыстаюцца поспехам у гасцей кірмаша.


Эдуард Вайцяховіч.

з'ядае мёртвы эпітэлій і вылучае муцын – каштоўнае рэчыва. Прапануюць такога смаўжа класці на месца парэза або ўкуса, каб хутка загаілася. Калі хтосьці цэлы дзень працуе за камп'ютарам, можа зрабіць сапраўдны сеанс расслаблення, а скура ідэальна гладкая.

**Святлана Сенкавец** з Паставаў год таму прачытала ў інтэрнэце аб наборы ў бізнес-інкубатар, падалася – і ўсё атрымалася. Яе муж **Васіль** вырошчвае грэчку, Святлана перапрацоўвае збожжа ў крупу. Яны партнёры. Жанатыя 13 год, маюць траіх дзяцей – Кацярына, Елісей і Глікерыя. Старэйшая Каця дапамагае ў асноўным тым, што даглядае малодшых дзетак, калі бацькі працуюць.

Ад Еўрасаюза Сенкаўцы атрымалі 9200 еўра, якія накіравалі на абсталяванне. Прадукцыю пастаўляюць у адну з сетак крамаў. Кажуць, выглядаюць так добра таму, што ядуць такія карысныя крупы без тэрмаапрацоўкі – зялёную грэчку. Менавіта таму яна захоўвае ўсе карысныя рэчывы.

Драўляныя цацкі многія бацькі цэняць за экалагічнасць. **Дзмітры Івашанка** з Астравеччыны сам бацька траіх дзяцей. Таму і вырашыў, што вось яна, ніша – экалагічныя цацкі, якія пакідаюць шмат месца для фантазіі маленькіх гаспадароў.

**Вераніка Шчуроўская** з Залесся на Смаргоншчыне пабудавала бізнес на вышыўцы. Яна робіць і мастацкія карціны, і рушнікі, абрадавыя наборы для хрышчэння, сумкі.

**Аляксандра Чыжэўская** таксама прыехала з Залесся. Ведаючы сучасны трэнд на экалагічнасць, жанчына запусціла выраб драўляных вокнаў.

### Чаму менавіта Камарова

Пакуль Вайцяховіч на кірмашы расказвае нам пра мястэчка, з ім пастаянна вітаюцца. А за вочы кажуць, што паднялося Камарова толькі дзякуючы яму. У спадара Эдуарда двое сыноў. Малодшы працаваў у сусветнай IT-кампаніі, але з сям'ёй вярнуўся ў Камарова. Цяпер Вайцяховічы разам займаюцца сямейнымі бізнесамі – аграсядзібай, кафэ, магазінам, пякарняй. І дапамагаюць іншым стаць моцнымі прадпрымальнікамі.

– Мая мэта – паказаць, як можна быць паспяховым у вёсцы, і нават больш, чым у горадзе, – тлумачыць Вайцяховіч. – У нас ёсць шмат добрых спецыялістаў з адукацыяй, але як кіраваць працэсамі? Я з захапленнем глядзеў на немцаў, як у іх наладжаны менеджмент. Тут у нас слабое месца, і гэтаму трэба вучыцца. Мару адкрыць тут IT-кампанію. Ведаю і дзе заказы браць. І праграмісту, і любому іншаму ж прыемней працаваць на прыродзе, чым на дзясятым паверсе душнага офіса. А захацеў – 80 кіламетраў да віленскага аэрапорта. У вёсцы можна жыць нашмат лепш і прыемней, чым у горадзе.

### Што вязуць з Камарова

Што б госці не набывалі ў Камарове, усе раяць абавязкова захапіць галоўны мясцовы гасцінец – хлеб з мясцовай пякарні.

Пякуць хлеб проста насупраць крамы, дзе пасля прадаюць. Яшчэ цёплым яго бяруць з паліц і вязуць дамоў як часцінку гэтага асаблівага месца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## Як працаваў бізнес-інкубатар у Камарове

Камарова стаў цэнтрам падтрымкі мясцовых прадпрымальнікаў. Ахвотныя распачаць сваю справу маглі тут гэтаму навучыцца, атрымаць кансультацыі і нават фінансавую падтрымку.

У праекце маглі ўдзельнічаць жыхары Мядзельскага, Астравецкага, Смаргонскага і Пастаўскага раёнаў. Навучанне бізнес-плананаванню і маркетынгу прайшлі 60 чалавек, якія вучыліся ў некалькіх наборах. Падтрымку ад 2 да 10 тысяч еўра атрымалі самыя перспектыўныя ідэі выпускнікоў школы. Тры з іх на Астравеччыне, пяць на Мядзельшчыне, дзевяць на Смаргоншчыне і сем на Пастаўшчыне.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.06 | 20.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0722 | **2.0625** |
| Еўра | 2.3489 | **2.3094** |
| Злоты, 10 | 5.5075 | **5.4168** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2022 | **3.2251** |
| Грыўня, 100 | 7.8306 | **7.8200** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **12.06** | **19.06** |
| Еўра | 2.3200/2.3500 | **2.2900/2.3200** |
| Долар ЗША | 2.0500/2.0750 | **2.0450/2.0670** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **12.06** | **19.06** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,22** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,30 | **3,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,75 | **1,90** |
| Буракі, 1 кг | 1,60 | **1,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Морква, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Лісічкі, 200 мл | – | **2,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,99 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,99 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 7,50 | **6,90** |
| Кавун, 1 кг | – | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,50 | **2,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 1,60 | **1,70** |
| Лімоны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Слівы, 1 кг | – | **3,50** |
| Суніцы, 500 мл | – | **5,00** |
| Персікі, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 6,00 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У аварыі з таксі пад Мінскам загінула маладзечанка

МАЛАДЗЕЧНА

Крымінальную справу аб смяротным ДТЗ распачалі ў дачыненні да таксіста з Маладзечна. На трасе Р28 ён урэзаўся ў маршрутку.

Пра гэта расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. Аварыя адбылася 17 чэрвеня прыблізна ў 07.15 на 27-м км трасы Р28 паблізу аграгарадка Лашаны Мінскага раёна.

Па дадзеных следства, 22-гадовы жыхар Маладзечна на аўтамабілі Кіа службы таксі ехаў у Мінск і не ўлічыў дарожную абстаноўку.

Ён сутыкнуўся з маршруткай, што стаяла на прыпынку. У выніку аварыі 63-гадовая пасажырка-маладзечанка, што ехала на заднім сядзенні ад атрыманых траўмаў памерла на месцы.

Кіроўцу і другога пасажыра легкавіка шпіталізавалі з рознымі траўмамі.

Пяць пасажыраў маршруткі атрымалі лёгкія цялесныя пашкоджанні і пасля агляду медыкі адпусцілі іх дадому.

– Па выніках першапачатковых следчых дзеянняў Мінскім раённым аддзелам СК у дачыненні да кіроўцы распачалі крымінальную справу па ч. 2 арт. 317 КК – парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека, – адзначыла Таццяна Беланог.

Следчыя апытваюць удзельнікаў здарэння, прызначылі экспертызы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Атрымаў бітай па галаве за тое, што зрабіў заўвагу моладзі

МАЛАДЗЕЧНА

На лінію «102» у Маладзечанскі РАУС паступіў званок ад жыхароў пасёлка Чысць Маладзечанскага раёна. Яны распавялі, што на вуліцы невядомыя нібыта здзекуюцца над катом.

Першым нарадам па паказаным адрасе прыбылі супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі. Пад'ехаўшы з тарца шматпавярховага дома, інспектары ДАІ заўважылі кампанію маладых людзей гадоў 20-25, усе выглядалі п'янымі.

Тут жа на лесвіцы, якая вядзе ў падвал шматпавярхоўкі, маладая дзяўчына аказвала першую медыцынскую дапамогу 30-гадоваму мясцоваму жыхару. У мужчыны была разбіта галава. Выратавальніцай апынулася медсястра з Чысцінскага бальніцы, якая жыве ў гэтым доме.

Супрацоўнікі ДАІ выклікалі хуткую дапамогу, а кампанію моладзі затрымалі да прыбыцця следча-апаратыўнай групы.

Высветлілася, што за хвіліну да з'яўлення экіпажа Дзяржаўтаінспекцыі фіґуранты ўгаварвалі мужчыну не паведамляць пра здарэнне. Сказаць, маўляў, ён ішоў і сам упаў па неасцярожнасці.

Устанавілі, што мужчыну беспадстаўна з хуліганскіх намераў ударылі па галаве бітай, прычыніўшы цялесныя пашкоджанні. На месцы здарэння супрацоўнікі міліцыі знайшлі і прыладу злачынства. Праўда, біта была ўжо разламалі на часткі.

Па падазрэнні ў здзяйсненні хуліганства затрымалі 23-гадовага жыхара вёскі Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна. Па словах фіґуранта, прахожы зрабіў заўвагу яму і яго знаёмым, што ў грамадскім месцы забаронена распіваць спіртныя напоі. Рэпліку ён успрыняў як папрок – у ход і пайшла біта.

Дзеянні затрыманага кваліфікавалі як хуліганства КК Рэспублікі Беларусь. Раней малады чалавек да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

А слядоў і відавочцаў жорсткага абыходжання з жывёлай на месцы здарэння праваахоўнікі не знайшлі. Мясцовыя жыхары патлумачылі, што ў міліцыю паведамілі толькі па сваіх здагадках, убачыўшы на вуліцы кампанію з бітай.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Тры чалавекі пацярпелі ў сутыкненні легкавікоў

АСТРАВЕЦ

Тры чалавекі пацярпелі ў аварыі ў Астравецкім раёне. Пра гэта БЕЛТА паведамілі ва ўпраўленні ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Аварыя адбылася на адным з перакрыжаванняў дарогі Гоза – АЭС – Ашмяны. Кіроўца Нісана пры выездзе з другараднай дарогі не прапусціў аўтамабіль «Іж», якім кіраваў грамадзянін Расіі.

У выніку аварыі кіроўцы не пацярпелі. А пасажыраў з рознымі траўмамі шпіталізавалі.

**Паводле БелТА.**



Пасля 11 год жыцця без мамы сын яе не прыняў.

# Праз 11 год захацела вярнуць кінутага сына

## Але ўжо не змагла

МАЛАДЗЕЧНА

**Завяршылі разгляд пытання аб тым, з кім застанецца падлетак – бабуляй або маці.**

Рашэнне суда задаволіла іск пракурора Маладзечанскага раёна па справе пазбаўлення бацькоўскіх правоў 37-гадовай жанчыны на яе 14-гадовага сына.

### Маці будавала новую сям'ю

Ад чатырох гадоў хлопчык жыў з бабуляй у Маладзечне. Пры гэтым зарэгістраваны быў у мінскім інтэрнаце па месцы прапіскі маці. Больш чым дзесяць год даглядала дзіця бабуля. Яна клапацілася пра ўсебаковае развіццё, удзельнічала ў жыцці і выхаванні, разам з мужам забяспечвала неабходныя матэрыяльныя ўмовы.

Маці ў справе выступае адказчыкам. На судзе жанчына патлумачыла, што не была ў шлюбе з бацькам хлопчыка. Калі сыну было чатыры гады, дабраахвотна аддала яго сваёй маці. Так склаліся абставіны, патлумачыла яна. Праз год абставіны змяніліся, наладзіла асабістае жыццё. Але сына так і не забрала.

Праз два гады, у 2011 годзе, яна нарадзіла яшчэ адно дзіця ў новых адносінах. З новым мужчынам яна не ў шлюбе, але пара жыве восем гадоў разам з дзіцем у мінскай кватэры маці сужыцельніка.

### Дзіця непатрэбнае

Органы апекі спрабавалі вярнуць старэйшага сына маці. Ёй прапаноўвалі забраць дзіця ў Мінск або выхоўваць яго ў Маладзечне, наладзіць дзіцяча-бацькоўскія адносіны. Адказчык не выказвала жадання наладзіць адносіны з сынам, не хацела забіраць яго ў новую сям'ю. У 2017 годзе на пасяджэнні камісіі па справах непаўнагадовых у Мінску патлумачала, што забраць сына не дазваляюць жыллёвыя ўмовы.

Прадстаўнік упраўлення па адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама распавяла, што ў 2018 годзе падчас гутаркі склалася ўражанне, што дзіця жанчыне непатрэбнае.

### Адносіны паміж сынам і маці страчаныя

11 год з 14 хлопчыка выхоўвала бабуля, яна і была яго сям'ёй. Ад 2008 года, з таго часу, як яго аддалі, сустрэчы з роднай маці былі хуткія і эпізадычныя. Больш за дзесяць год жанчына не прымала і не хацела прымаць удзел у выхаванні сына.

Жанчына не злоўжывае спіртным, не з'яўляецца асацыяльнай асобай. На судзе яе запыталіся, калі яна планавала пачаць гадаваць сына. Адказала: «Ад гэтага года я вырашыла».

Псіхолаг правёў дыягностыку дзіцячабацькоўскіх адносінаў. Праверка паказала, што паміж хлопчыкам і яго маці няма эмацыйнага кантакту. Хлопчык адштурхоўвае маці, узаемаадносіны паміж імі страчаныя.

На судзе адказчык іск не прызнала і была супраць пазбаўлення бацькоўскіх правоў. Абскардзіла рашэнне суда Маладзечанскага раёна аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў. Судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінскага абласнога суда пакінула рашэнне ў сіле.

**Аліна УТКІНА,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Трактар урэзаўся ў дрэва. Пасажыра забралі ў бальніцу

ВІЛЕЙКА

ДТЗ здарылася ў пятніцу, 14 чэрвеня, раніцай.

Пасля шасці раніцы 30-гадовы жыхар Мацькаўцаў на трактары з прычэпам ехаў па дарозе Барысаў – Ашмяны з боку Мацькаўцаў да Старынак, распавялі ў Вілейскім РАУС.

Кіроўца не справіўся з кіраваннем, і трактар з'ехаў на правую па ходзе руху ўзбочыну. Там ён наехаў на дрэва. Як кажуць у РАУС, кіроўца быў нецвярозым.

У кабіне трактара быў пасажыр – 31-гадовы жыхар Мацькаўцаў. З цялеснымі пашкоджаннямі яго забралі ў вілейскую бальніцу.

Трактар належыць прадпрыемству, дзе працуе кіроўца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Краў з лецішчаў у Маладзечанскім і Валожынскім раёнах

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

Следчыя Міншчыны завяршылі расследаванне крымінальнай справы аб серыйных крадзяжах з лецішчаў.

Абвінавачаны – 60-гадовы мужчына. Ён раней судзімы за ўчыненне аналагічных злачынстваў. У Заслаўі наймаў пакой у знаёмага.

Па дадзеных следства, у перыяд часу з красавіка 2017 года па студзень 2019 года абвінавачваны здзейсніў тры дзесяткі крадзяжоў з дачных дамоў, размешчаных у Валожынскім, Маладзечанскім і Мінскім раёнах.

Следчыя ўстанавілі, што мужчына на электрычцы прыязджаў у дачныя пасёлкі і знаходзіў дамы, дзе не было гаспадароў. З дапамогай адвёртак, мантыроўкі і абцугоў пашкоджваў замкі або вокны і пранікаў у дом, гаспадарчыя пабудовы.

Адтуль ён выкрадаў прадукты, дарагія спіртныя напоі, электраінструменты, бытавую і іншую тэхніку – усё тое, што мог б перанесці ў дарожнай сумцы і заплечніку. Выкрадзенае збываў на рынках сталіцы.

Фігурант прызнаўся ў злачынствах. Яго ўзялі пад варту, расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Агульная сума нанесенай шкоды склала каля 12 тысяч рублёў. Падчас папярэдняга расследавання частку выкрадзеных рэчаў, якія не паспеў збыць мужчына, знайшлі і вярнулі пацярпелым.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваны як крадзеж, учынены у буйным памеры (ч. 3 арт. 205 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). Мужчына прызнаўся ў злачынстве.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Адчынілі кабінет камп'ютарнай тамаграфіі

ВІЛЕЙКА

**Вілейка стала першым у Беларусі горадам, дзе ўстанавілі камп'ютарны тамограф беларускай вытворчасці.**

13 чэрвеня ў Вілейскай ЦРБ урачыста адчынілі кабінет камп'ютарнай тамаграфіі.

На ўрачыстасці намеснік міністра аховы здароўя **Барыс Андрасюк** выказаў спадзяванне, што тамограф дапаможа дактарам у дыягностыцы, а хворым – у лячэнні.

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Мінаблвыканкама **Міхаіл Вішнявецкі** нагадаў, што роўна год таму падпісалі Загад аб стварэнні ў Вілейцы скрынінгавага цэнтра.

– Заўсёды прыемна, калі словы пераходзяць у справы, – адзначыў Міхаіл Вішнявецкі. – Было шырокае грамадскае абмеркаванне адкрыцця скрынінгавага цэнтра, нашы спецыялісты сустракаліся з насельніцтвам. І вось – ужо ўстанавілі тамограф, у планах – эндаскапічнае і ўльтрагукавое абсталяванне.

**Намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама Святлана Дзяруга назвала адкрыццё кабінета камп'ютарнай тамаграфіі знакавай падзеяй для вілейчукоў. І пажадала землякам менш хварэць.**

Як расказаў «Рэгіянальнай газеце» галоўны доктар Вілейскай ЦРБ **Ігар Спільнічэнка,** у бальніцы зробяць усё, каб ва ўмелых руках спецыялістаў новы апарат выкарыстоўваўся на поўную магутнасць.

– У дзве змены, ад васьмі раніцы да васьмі вечара, у кабінеце камп'ютарнай тамаграфіі будуць працаваць спецыялісты. У экстраных выпадках КТ будуць рабіць і ноччу. Хваробы цэнтральнай нервовай сістэмы, траўмы, анкалогія… Новы апарат дапаможа ў дыягностыцы шматлікіх захворванняў.

**У нас ёсць два маладыя спецыялісты – дактары промневай тэрапіі (рэнтгенолагі). Адзін ужо прайшоў перападрыхтоўку. Другі якраз на курсах.**

У далейшым і іншым дактарам варта прайсці такую перападрыхтоўку. У нас вопытныя рэнтгенолагі. Чаму б і не? – кажа галоўны доктар.

Доктар звярнуў увагу на тое, што кабінет КТ размешчаны побач з прыёмным пакоем. Гэта вельмі зручна. З прыёмнага пакоя хворага адразу накіруюць на КТ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




**Новы камп'ютарны тамограф і спецыялісты, якія будуць працаваць на ім.**




# Полымя міру асвяціла Маладзечанскі хлебазавод

МАЛАДЗЕЧНА

**Эстафета агню «полымя міру» ў межах II Еўрапейскіх гульняў завітала ў суботу, 15 чэрвеня, у Маладзечна. Сімвалічна яна стартавала з месца, якое ў тысяч маладзечанцаў неад'емна звязана з дамашнім ачагом і ўтульнасцю – месцам, дзе выпякаюць хлеб.**



**Мікалай Аскірка.**



**Святлана Сарока.**




Фота «Рэгіянальнай газеты».

**Удзельнікі і гледачы эстафеты «Полымя міру» II Еўрапейскіх гульняў на Маладзечанскім хлебазаводзе.**

Захоўнікаў полымя сустрэлі караваем – гэтая беларуская традыцыя ўдвая да месца на ганку хлебазавода.

У вітальным слове дырэктар філіяла «Маладзечанскі хлебазавод» ААТ «Барысаўхлебпрам» **Мікалай Аскірка** падзякаваў за гонар стаць першым прадпрыемствам раёна, якое прымае эстафету такога ўзроўню і пажадаў усім прысутным міру, а спартсменаў – удалых выступленняў.

Гонар распачаць эстафету на Маладзечаншчыне і пранесці полымя міру па хлебазаводзе аказалі члену Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце міністраў, дырэктару Палаца культуры **Святлане Сароцы**. Яна адзначыла ў сваім выступленні:

– Прыемна, што аказана вельмі высокая місія прадпрыемству, на якім выпякаюць вельмі духмяны, вельмі смачны хлеб. А мне аказаны высокі давер быць першым факеланосцам і менавіта стартаваць у гэтай эстафеце.

Факел урачыста запалілі і пад апладысменты гледачоў Святлана Сарока пранесла яго па цахах завода. Падчас шэсця факеланосец заўважала, як прыгожа аздобленая кветкамі тэрыторыя завода, у будынках бездакорная чысціня, духмяны пах, а на тварах працаўнікоў усмешкі. І такое хараство тут пануе заўсёды.

Святлана Рыгораўна паспявала перамовіцца словамі з работнікамі і шчодра жадала і ім, і хлебазаводу працвітання. І каб агонь полымя міру асвяціў месца, дзе гатуюць хлеб для усіх маладзечанцаў. Напрыканцы шэсця прысутныя сабраліся для агульнага фотаздымку.

Хлебазавод стаў першым пунктам на шляху эстафеты II Еўрапейскіх гульняў у горадзе сонца.Пасля ў гэты дзень урачыстасць працягнулася. Шэсце прайшло па Вялікім Гасцінцы, а завяршылася ў амфітэатры. На цэрымоніі прысутнічаў старшыня райвыканкама **Юры Горлаў**, міністр сувязі і інфармацыі **Канстанцін Шульган** і іншыя госці.

Агонь у межах эстафеты спачатку запалілі ў сталіцы Італіі. Пасля паднялі на найвышэйшы пункт Еўропы гару Манблан. Полымя падарожнічала па тэрыторыі Італіі, Славакіі, Славеніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, а пасля і прыбыло ў Беларусь.

Рух па тэрыторыі нашай краіны агонь II Еўрапейскіх гульняў пачаў з горада Брэста 12 мая. Ад 11 чэрвеня эстафета агню шэствуе па Міншчыне. Старт адбыўся ў Салігорску, адкуль факеланосцы працягнулі шлях праз Нясвіж, Барысаў, Хатынь.

17 чэрвеня полымя міру сустрэў Мінск. Завяршаецца эстафета 21 чэрвеня, у дзень адкрыцця мульціспартыўнага форума на стадыёне «Дынама».

**Эмілія ХВОЯ.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Нісан Прым’ера, Альмера, 1996 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно 19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Шкода Актавія, 2010 г.в, цёмна-шэры, прабег 194 000 км, у выдатным стане, 12 000 рублёў. Т. (8-029) 5026948.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000). Тэл. (8-033)3668181.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў аг. Любань Вілейскага раёна. Цана 20 000 рублёў. Т. (8-033) 6314302.

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне, 46,1 кв. м, 5 паверх. Т. (8-01772) 57861, (8-029) 9111113.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, побач гараж з ямай і падвалам. Мэбля па жаданні. Т. (8-029) 5585482.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх 5-павярховага дома. Гатовая да пражывання. Цана дагаворная, без пасрэднікаў. Т. (8-029) 3772077.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Кастрычніцкая,дом 34, кв.2 з усімі выгодамі, на першым паверсе. Т. МТС (8-029) 8597614.*

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскага раёна, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом драўляны ў в. Старыя Баруны (Смаргонскі раён), 25 сотак. Т.(8-029) 7754975.*

• Дом у в. Дзядзічы, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 5573729.

• Дом у в. Дубіна Валожынскага раёна. Т. (8-029) 5554926, (8-029) 6475203 Аляксей.*

• Дом у в. Кавалі, Ільянскі с/с. Т. (8-029) 1353067.*

• Дом у дачным пасёлку «Дружба» в. Прынта. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5448700.*

• Кватэра ў 2-павярховым доме, 1 паверх, у аг. Ерхі Вілейскага раёна, 67 кв. м, з выгодамі (ацяпленне – кацёл), гаспадарчыя пабудовы, падвал пад домам. Т. (8-029) 5094911 Людміла.

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Печы. Кладка. Рамонт. Дацкевіч В.Г. КА 7949758. Т. (8-044) 4771719.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрмінoўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнеўпорная, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Мэбля**

• Спальня «Іса». Тэрмінова. Т. (8-033) 3989303.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабан свойскі, 130-150 кг. Т. (8-029) 6591378.

• Шчанюкі нямецкай аўчаркі. Т. (8-029) 9222029.

**Іншае**

• Балон газавы, канапа, халадзільнік, будаўнічая тачка, торфабрыкет. Т. (8-029) 7060485.*

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Любыя дэмантажныя работы. Т. (8-033) 3160206, (8-044) 7556706.

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Настаўнік па рабоце з камп’ютарам. Т. (8-029) 5019550.*

# «Не абраў, на якую спецыяльнасць пастулаць»

## Як у Маладзечне здавалі ЦТ па матэматыцы

**17 чэрвеня ў Маладзечне абітурыенты здавалі цэнтралізаванае тэставанне па матэматыцы. Тэставанне прайшло ў будынку Маладзечанскага політэхнічнага каледжа.**

На матэматыку адведзеныя тры гадзіны. Тэставанне пачалося ў 11:00, а завяршылася ў 14:00.

### Ужо не школьнікі, ячшэ не студэнты

З каледжа выходзіць хлопец з усмешкай. Яго завуць **Мікіта Харук.** Ён скончыў СШ №14, а цяпер здаў другое тэставанне. Мікіта цёпла ўспамінае свой выпускны вечар, які назваў выдатным і з прыгожым феерверкам. Ён упэўнены, што тэставанне здаў добра:

– Здаю матэматыку таму, што ў школе вучыўся ў класе з фізіка-матэматычным профілем.




Кірыл Макей і Мікіта Харук пасля здачы ЦТ

> Я пакуль яшчэ не абраў, на якую спецыяльнасць буду пастулаць, але дакладна паеду ў Мінск.

У той час, як Мікіта распавядае пра планы на паступленне, да яго падыходзіць сябар. **Кірыл Макей** таксама здаваў матэматыку, але выйшаў з аўдыторыі значна раней. І ён дакладна ведае, куды сабраўся паступаць:

– Здаў матэматыку як запасны прадмет, таму што больш мне здаваць няма чаго з маім наборам. Я збіраюся ў Акадэмію МУС на факультэт адміністрацыйна-прававая дзейнасць. Гэта прэстыжная і надзейная прафесія з добрым кар'ерным ростам. Зараз змяніўся міністр МУС. Міністр **Караеў** вельмі суворы, там будзе не вельмі добра, але затое дысцыпліна, бо ён былы вайсковец.

### «Не збіраюся на дзённае»

На прыступках каледжа спускаецца дзяўчына. **Ганна Феразінская** правяла ў аўдыторыі крыху больш за паўтары гадзіны. Дзяўчына скончыла СШ №12 з сярэднім балам атэстата 9,3. Ганна распавядае карэспандэнту «РГ», што іспыты ў школе былі не цяжкімі, як і ЦТ:

– Я здавала матэматыку, таму што хачу паступаць у БДУФК на спецыяльнасць «Турызм і гасцінннасць». Гэта цікавая спецыяльнасць. Не збіраюся на дзённае, пастулаць буду на завочнае. Планую працаваць падчас вучобы, але яшчэ дакладна не ведаю, кім і дзе.




Ганна Феразінская толькі што напісала тэставанне па матэматыцы.

### Бацькі чакаюць каля дзвярэй

Пасля пачатку тэставанне прайшло больш за паўтары гадзіны. З дзвярэй каледжа выходзяць абітурыенты, а каля будынку дзяжураць бацькі.

> На ганку сядзелі трое мужчын. Яны прыехалі з Астраўца разам з дзецьмі. У той час, калі сыны здавалі матэматыку, бацькі іх чакалі каля каледжу.



Бацькі чакаюць сваіх сыноў каля ўваходу.

**Рамуальд Масевіч** чакае сына **Эрнэста.** Ён распавёў, што пакуль у сям'і не вызначыліся, куды будзе паступаць сын, але матэматыку здаваць трэба.

**Канстанцін Сыс** прыехаў разам з Рамуальдам, таксама чакаў свайго сына.

– Матэматыку сын здае таму, што гэты прадмет у яго добра атрымліваецца і ўсюды ён патрэбны пры паступленні. Як здадзім тэст, так і будзем глядзець, куды паступаць. Збіраемся ў «наргас», цяпер БДЭУ. Збіраемся ў Мінск, таму што гэта самы аптымальны варыянт, прасцей за ўсё дабірацца і гэта ўсё ж такі сталіца.

Валянцін далучыўся да размовы:

> – Мой сын таксама не ведае, куды хоча паступаць. Думае пра Менск, а там ужо гледзячы як пройдзе тэставанне. Магчыма, застанецца ў Маладзечне.

Матэматыка стала чацвёртым прадметам, які здавалі на цэнтралізаваным тэставанні. Напярэдадні ў абітурыентаў ЦТ па біялогіі, замежных мовах (англійская, нямецкая, французская, іспанская, кітайская), хімія, фізіка, гісторыя Беларусі, геаграфія, Сусветная гісторыя.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Стары Валожын збіралі, як мазаіку

## У тэрытарыяльным цэнтры распавялі, як працуюць са старымі здымкамі і сталымі людзьмі

ВАЛОЖЫН

**На адным здымку – два раварысты. Адзін – валожынец-пенсіянер Эдуард Унучак на вуліцах роднага горада ў 2019 годзе. На другім – таксама ён, на той жа вуліцы. Толькі ў канцы 1950-х, яшчэ хлопчык.**

Вы думаеце такое немагчыма? З сучаснымі тэхналогіямі, фантазіяй і талентамі супрацоўнікаў Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва – магчыма.

Выстава з дзесяці падобных фотакалажаў – вынік праекта «Папярэджанне кагнетыўных узроставых зменаў у сталых людзей». Яго год рэалізоўвалі ў Валожыне. Праект фінансаваў нямецкі фонд «Памяць. Адказнасць. Будучыня». Праект накіраваны на людзей, народжаных да 1945 года.

### Каб вызначыць, якое месца на фота, збіралі кансіліум

Ідэя і ўвасабленне праекта належыць супрацоўнікам Валожынскага цэнтра **Алене Жданюк** і **Ірыне Кавяза.**

– Старыя фотаздымкі – гэта адзін накірунак праекта, другі – праца са сталымі людзьмі, – кажа Алена Жданюк. – Мы наведалі шмат людзей, расказалі ім аб праекце, прапаноўвалі ўдзельнічаць. Пагаджаліся не ўсе.

Раз на месяц збіралася творчая майстэрня – працоўная група, якая абмяркоўвала ход праекта.

**Часам пра тое, што ў Цэнтры збіраюць старыя фотаздымкі, валожынцы даведваліся ад знаёмых. Прыносілі фота сваіх бацькоў і сваякоў.**

Па словах Алены, фотаздымкаў назбіралася шмат, але выкарыстаць для стварэння калажаў змаглі не ўсе. Прынялі толькі тыя, дзе дакладна можна было вызначыць, у якім месцы Валожына яны зробленыя.

– Часам цэлы кансіліум збіралі, каб вызначыць, дзе зробленае фота. Або бралі фотаздымак і хадзілі з ім па горадзе, шукаючы, дзе тое месца, – дзеліцца Алена. – Здаралася так, што адзін фотаздымак дапамагаў раскрыць іншы. Напрыклад – на адным быў толькі кавалачак будынка, на другім – увесь гэты будынак. Так паступова, як мазаіку, мы збіралі стары Валожын.

### У тым жа месцы, у тую ж пару года

Імкнуліся, каб на адабраных фотаздымках абавязкова былі людзі. Але для двух фота ўсё ж зрабілі выключэнне.

На першым – сённяшняя вуліца Савецкая ў канцы 1940-х. На другім – будынак лясніцтва, што належаў графу **Тышкевічу** і да Другой сусветнай вайны стаяў за межамі горада. Падчас вайны немцы перавезлі яго ў Валожын. Сёння тут таксама лясніцтва.

**Удзельнікі праекта знайшлі жанчыну, якая да вайны нарадзілася ў гэтым доме. Сёння ёй каля 90 і яна жыве ў Польшчы. У Валожын прыязджаў яе дарослы сын і, па словах Алены, фатаграфаваў і дом, і кожны пянёк каля яго.**

Стваральнікі праекта бралі стары здымак і ў калажы злучалі яго з новым, зробленым у тым жа месцы з тым жа чалавекам. Калі чалавека ўжо няма, пазіравалі яго ўнукі або праўнукі.

Самы стары здымак у праекце прынёс валожынец **Пётр Галіеўскі**. На фота – вучні Валожына на ганку школы ў 1944 годзе. Сярод іх – будучая жонка Пятра Галіеўскага, якой ужо няма.

Сёння ў тым будынку не вучацца, але ён захаваўся. Пазіраваць на старым ганку папрасілі вучняў школы №2, прыблізна аднагодкаў тых, з 1944.

### Як міліцыянер пранікся праектам

Сучасныя фотаздымкі для калажоў рабіла Алена Жданюк. А гэта аказалася няпроста.

– Трэба было выбраць правільны ракурс, каб пад патрэбным вуглом супалі і дах, і вокны. Калі на старым фотаздымку быў снег, чакалі зімы. Некаторыя фота перараблівалі па некалькі разоў. Спецыяльна дзеля аднаго здымка побач з дзядулем унук нават з Мінска прыязджаў.

А калі хацелі зрабіць фотаздымак з раварыстам **Эдуардам Унучакам**, Алену ледзь не аштрафавалі. Фатаграфавацца трэба было на аўтадарозе.

– Да мяне падышоў работнік ДАІ. Сказаў, што я павінна заплаціць штраф, – прыгадвае Алена. – Я пачала яму тлумачыць, расказваць аб праекце, паказваць старую фотку з хлопчыкам на ровары. У выніку міліцыянер паслухаў нас і дазволіў сфатаграфавацца, толькі асцярожна.

**На адкрыццё выставы «Актыўнае даўгалецце. Перазагрузка» ў пачатку чэрвеня запрасілі усіх мадэляў. Кожнаму падарылі фотаздымак.**

– Уяўляеце, у жыцці некаторыя ўнукі не бачылі сваіх бабуль і дзядуль, а на фотаздымках апынуліся разам, – падсумавала Алена.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фотакалажы Алены ЖДАНЮК.

Старое фота – з сямейнага архіва Эдуарда Унучака. На фотакалажы Эдуард Унучак ў 2019 годзе і ён жа – у канцы 1950-х у Валожыне.



Старое фота – з сямейнага архіва Ірыны Кавяза. На фота – Тамара Хахлова ў канцы 1960 і яе ўнучка Крысціна ў 2019 у Валожыне.



# Вуліца стрыт-фуда рыхтуецца да адкрыцця

Выявы на сценах павільёнаў.

**У Маладзечне поўным ходам ідзе будаўніцтва і добраўпарадкаванне вуліцы стрыт-фуда. Гарадскую крэатыўную прастору актывісты дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць» пачалі афармляць яшчэ летась.**



Актывісты Таццяна Семашкевіч, Вольга Дашкевіч і Наталля Барташэвіч.



Прадпрымальнік Віктар Зайкоўскі.

МАЛАДЗЕЧНА

I неўзабаве пляцоўка, якую назвалі завулкам ката Францыска, стане паўнавартасным месцам, дзе змогуць праяўляць сябе мастакі, музыкі і іншыя прадстаўнікі культурнага руху.

## Праца ў самым разгары

– Гэта праект па стварэнні гарадской крэатыўнай грамадскай прасторы. У дадзены момант мы праводзім тут будаўнічыя работы. Плануем іх завяршыць і тым самым рэалізаваць праект да пачатку ліпеня. За гэты перыяд збіраемся правесці азеляненне і арганізаваць дадатковае асвятленне, – расказала прадстаўнік грамадскай арганізацыі «Next Stop – New Life» **Вольга Дашкевіч**.

Ужо аформленыя сценкі павільёнаў. На іх – творы мясцовых і замежных мастакоў. Адным з тых, хто афармляў сценкі, быў вядомы мастак і дызайнер **Базіната**.

Вуліца ўжо стала пешаходнай. Быў створаны і ўзгоднены з Дзяржаўтаінспекцыяй план па арганізацыі дарожнага руху на гэтай тэрыторыі. Мясцовая ўлада таксама падтрымлівае крэатыўны праект вуліцы стрыт-фуда.

## Хто і чаму супраць пешаходнай вуліцы

Па словах актывістаў, з глабальнымі праблемамі яны не сутыкнуліся.

**А вось арандатары некаторых гандлёвых кропак не згодныя з перакрыццём цэнтральнага праезду і з'яўленнем на яго месцы пешаходнай зоны.**

Вольга Дашкевіч патлумачыла, што асноўная прэтэнзія ад арандатараў – статус вуліцы, 50-метровы ўчастак якой цяпер з'яўляецца пешаходнай. З-за гэтага нібыта паменшылася наведвальнасць вуліцы, таму што людзі не могуць пад'ехаць на аўтамабілі – і, як следства, упалі продажы.

Тым не менш, падлікі актывістаў сведчаць, што колькасць людзей, якія прыходзяць на вуліцу стрыт-фуда, не стала меншай. Па іх словах, працаўнікі праекта зрабілі супрацьлеглыя высновы за перыяд у два дні і гэта наўрад ці можа лічыцца аб'ектыўнымі дадзенымі: не ўлічвалі надвор'е, летні сезон…

Але гэта не адзіная прэтэнзія да актывістаў. Па словах арандатара аднаго з гандлёвых павільёнаў **Віктара Зайкоўскага**, яго трывожыць пытанне не выручкі, а арганізацыі.

– Мы ведалі толькі на ўзроўні чутак, што тут будзе пешаходная зона. Нас гэта неяк абышло… Тут не было чаго, самае галоўнае: не было агульнага сходу. Каб, да прыкладу, дырэктар з ініцыятарамі сабраў усіх прадпрымальнікаў, уладальнікаў павільёнаў, і мы маглі нармальна сесці, абмеркаваць, можа, нават нюансы па тым, як тут падзяляць тэрыторыю, – заявіў прадпрымальнік Віктар Зайкоўскі.

## Вуліца стрыт-фуда – адзіны падобны праект у Маладзечне

У той жа час большасць прадстаўнікоў бізнесу вітаюць намаганні стварыць у Маладзечне прывабную і дружалюбную да пешаходаў гарадскую прастору, запэўніваюць актывісты.

Ёсць і тыя, хто ад пачатку не прыняў ідэю пешаходнай вуліцы, аднак пасля змяніў меркаванне. А некаторыя арандатары ўсімі сіламі імкнуцца дапамагчы актывістам. **Юры Горын** – адзін з іх. На імпрэзы з удзелам музыкантаў ён прадстаўляе неабходную апаратуру.

**– Усе астатнія ўладальнікі кропак і кафэ – за тое, каб тэрыторыя была свабоднай ад аўтамабіляў, каб тут была тэрыторыя адпачынку для насельніцтва нашага горада.**

Няма ў нас такога месца, дзе людзі маглі б спакойна прыйсці, пасядзець, прагуляцца з дзецьмі, са сваёй каханай, дзеці маглі б пакатацца на скейтах, на веласіпедах. Такое месца павінна быць, – упэўнены ўласнік адной з гандлёвых кропак Юры Горын.

Вуліца стрыт-фуда – пакуль што адзіны падобны праект у Маладзечне. У верасні мінулага года зладзілі яго пілотную прэзентацыю, а афіцыйнае адкрыццё плануецца ў ліпені.

А пакуль на тэрыторыі пешаходнай вуліцы ў выхадныя дні ладзяць музычныя вечары. Арганізатары абяцаюць запрашаць беларускіх выканаўцаў і праводзіць мастацкія мерапрыемствы. Актывісты падкрэсліваюць, што крэатыўная прастора палепшыць адпачынак жыхароў Маладзечна і прапануе разнастайныя спосабы правесці вольны час.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адсканууйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/streetfoodmola.**



● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота забяспечана Мікалаем КАМІНСКІМ.

Савецкім салдатам было дзіўна, што ў Германіі дзяўчаты ходзяць у штанах. ГДР, Патсдам, пачатак 1970-х.

# Памятаю фантаны з рыбкамі і нямецкіх дзяўчат у шортах

## Ураджэнец Вілейшчыны пра тое, што запомнілася падчас службы ў ГДР

**23 лістапада 1971 года. Гэтая дата запісана ў армейскім нататніку майго бацькі, ураджэнца Ільы, а сёння маладзечанца Мікалая Камінскага.**

Дата, калі 19-гадовы хлопец з Ільы, асабліва не бываўшы нідзе акрамя райцэнтра, трапіў у іншую краіну на вайсковую службу ў ГДР, у горад Патсдам. З дзяцінства я памятаю і бацькаў армейскі альбом з фотаздымкамі, і яго расповяды пра гэтую краіну.

### Два гады – толькі лісты і паштоўкі

Не сказаць, што мяне вельмі цікавілі звесткі пра танкі, вучэнні і страявую падрыхтоўку. А вось уражанні хлопца з Вілейшчыны пра далёкі горад Патсдам заўсёды слухала з задавальненнем. Урэшце нешта са сваіх дзіцячых успамінаў, нешта з нядаўніх расповядаў вырашыла сабраць у матэрыял.

Па словах бацькі, ГДР была самай прэстыжнай замежнай краінай, куды накіроўвалі на вайсковую службу хлопцаў з Саюза. Да сёння бацька памятае лозунг «Нас абралі, нам даверылі», размешчаны ў часці. У іншых краінах, у той жа Венгрыі, служыць таксама было прэстыжна. Але рэйтынг быў крыху ніжэйшы.

Роўна два гады, не ездзіўшы ў адпачынак, бацька адслужыў у Германіі. Сувязь з роднымі была выключна праз лісты. А яшчэ ён дасылаў у Ілью паштоўкі да святаў – прыгожыя, пасрэбраныя і пазалочаныя. У Саюзе такіх не было.

### Пра парк Сан-Сусі і нямецкія ласункі

У 63 танкавы полк у Патсдаме бацька трапіў пасля вучэбкі ва ўкраінскім горадзе Бярдзічаве. На цягніках праязжалі праз іншыя нямецкія гарады – Франкфурт-на-Одэры і Магдэбург. Аднак было гэта ноччу, гарады асабліва не разгледзеш. У памяці бацькі засталіся толькі брукаванкі.

Патсдам можна было паглядзець падчас групавых звальненняў. Так некалькі разоў бацька наведаў парк Сан-Сусі. Памятае фантаны з рыбкамі, прыгожыя архітэктурныя будынкі, палац караля Фрыдрыха Вялікага, збудаваны ў 18 стагоддзі.

У кавярні, што была на тэрыторыі вайсковай часці, можна было ацаніць якасць нямецкіх прадуктаў. Асабліва бацьку запомнілася печыва, па смаку непараўнальнае з савецкім, і жуйкі, якіх у Ільы, а можа, і ў Саюзе, у 1970-х не было ўвогуле.

### Ездзіў на двухпавярховым аўтобусе і каштаваў нямецкае піва

Крыху пабачыць Германію і немцаў можна было і падчас камандзіровак. Так аднойчы бацька трапіў на вайсковы завод ў Вюнксдорфе. Бачыў там шмат савецкай і нямецкай тэхнікі, танкі Іосіф Сталін і Клім Варашылаў.

Падчас другой камандзіроўкі пашчасціла пракаціцца на двухпавярховым аўтобусе. У кампаніі было некалі салдат і старэйшы лейтэнант. Тут жа, у аўтобусе, пазнаёміліся з нямецкім салдатам. Той, прыгаворваючы, «камрад, камрад» (панямецку «таварыш») частаваў нашых салдат нямецкім півам.

### Бясснежныя нямецкія зімы для беларуса ў 1970-х былі нязвыклымі

Дзіўным для бацькі было тое, што нямецкія дзяўчаты ўжо хадзілі ў штанах і нават у шортах. У роднай Ільы такога не бачыў.

Напачатку 1970-ых нязвыклым для беларуса быў і клімат у Германіі – шмат вільготных дзён, амаль бясснежныя зімы. Снег раніцай выпадаў, а да абеду раставаў. Клімат быў якраз такі, як у нас цяпер, кажа бацька.

Уразілі і нямецкія лясы. Пасля непралазных ільянскіх яны выглядалі вельмі акуратна. Дрэвы – нібы пасаджаныя пад лінейку. Было адразу бачна, што гэта не натуральныя, утвораныя прыродай лясы, а пасаджаныя чалавекам.

### Пра слоўнікавы запас і падарункі родным

Што да нямецкай мовы, ад савецкага салдата ў ГДР не патрабавалі багатага слоўнікавага запасу. Трэба было вывучыць па-нямецку фразы: «Рукі ўгору!», «Стой! Страляць буду!», «Абыдзі ўлева!» і «Абыдзі ўправа!».

Бацька, старшы механік-кіроўца, атрымліваў 25 марак на месяц. Таму крыху купіў падарункаў дамоў. Набыў жуйкі, што нагадвалі цукеркі-ірыскі, адрэз тканіны, ліхтарык, сабе – белую сінтэтычную кашулю з чорным каўнерыкам і рукавамі.

Усё склаў у два нямецкіх чамаданы, абклееных налепкамі-пераводкамі з партрэтамі нямецкіх прыгажунь. Такія налепкі ў Саюзе былі вельмі папулярныя. Таму салдат набыў іх шмат у падарунак хлопцам-сябрам.

– А вярнуўшыся пасля войска ў Ілью, праз дзень пагнаў кароў у поле, быццам і не быў нідзе, – падсумаваў бацька свае ўспаміны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Удзельнікі акцыі Крысціна Сінкевіч і Ян Гацкі.

## У садку правялі акцыю па зборы батарэек

**СМАРГОНЬ**

«Здай батарэйку – дапамажы прыродзе» – пад такім дэвізам прайшла ў яслях-садку №13 Смаргоні акцыя па зборы старых батарэек.

Педагогі зладзілі мерапрыемствы для таго, каб фарміраваць у дзяцей і бацькоў экалагічную культуру.

Тэма экалагічнай сітуацыі актуальная ва ўсім свеце. Хочацца бачыць месца, дзе мы нарадзіліся і жывем, дагледжаным і чыстым. Асабліва гэта актуальна ў Год малой радзімы. Вядома, што батарэйкі вельмі таксічныя і моцна забруджваюць навакольнае асяроддзе.

Дарослыя і дзеці, удзельнічалі ў акцыі па зборы батарэек, стараліся быць карыснымі і ўнесці свой уклад на карысць роднай зямлі.

**Усяго за тыдзень сабралі больш за сотню розных батарэек, якія перадададуць на перапрацоўку. Аказваецца, многія захоўваюць іх дома, што катэгарычна не дазваляецца рабіць.**

Удзельнікам акцыі раздалі памяткі, каб кожны ўсвядоміў сябе часткай прыроды, паразважаў над экалагічнымі праблемамі.

Акцыя зацікавіла як дзяцей, так і бацькоў, прымусіла задумацца пра экалагічныя праблемы і іх вырашэнне. Таму наш калектыў вырашыў зрабіць акцыю традыцыяй.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ДУА «Яслі-садок №13 Смаргоні».**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Правядуць фестываль «Энергія маладосці»

**ВІЛЕЙКА**

Традыцыйны моладзевы фестываль ладзяць у чацвёрты раз.

### Праграма фестывалю

15.00 – конкурс «Догі-парк-2019»

17.00 – паказальныя выступы варкаўтараў і аматараў экстрэмальных відаў спорту на на варкаўт- і скейт-пляцоўках

18.00 – танцавальны марафон, дыскатэка. Марафон – на цэнтральнай плошчы, дыскатэка – у гарадскім парку

21.00 – фестываль светлавых шароў і неонавае шоу

23.00 – 00.00 – дыскатэка

**Аддзел інфармацыі.**

## Школьнікі сталі пераможцамі і прызёрамі ў міжнародным конкусе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Чацвёра вучняў гімназіі № 10 Маладзечна сталі пераможцамі і прызёрамі міжнароднага конкурсу «STEM ў маім жыцці».

На конкурсе маладыя таленты гімназіі прадставілі аўтарскія відэаролікі, дзе на нямецкай мове распавялі, што ў іх жыцці значыць STEM. Журы Інстытута Гётэ ацэньвала крэатыўнасць, а таксама ўзровень валодання школьнікамі нямецкай мовай, паведамілі ва Упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

Па выніках конкурсу першае месца прысудзілі дзевяцікласніцы гімназіі **Анастасіі Жукоўскай** і васьмікласніку **Глебу Зубараву.** Дзеці атрымалі права на 10-дзённае навучанне ў міжнароднай STEM-акадэміі ў нямецкім Гётынгене, куды паедуць у кастрычніку.

Яшчэ двое дзевяцікласнікаў – **Арцём Нехаенак** і **Мікалай Калачык** – на гэтым жа конкурсе занялі другія месцы і станць удзельнікамі міжнароднага STEM-лагера па робататэхніцы ад 25 жніўня па першага верасня ў Мінску.

STEM – адукацыйная праграма, якая ўключае натуральныя навукі, тэхналогіі, інжынернае мастацтва і матэматыку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Валожыне пройдзе міжнародны баскетбольны лагер для дзяцей

**ВАЛОЖЫН**

Беларуская федэрацыя баскетбола сумесна з Міжнароднай федэрацыяй правядуць у Валожыне міжнародны трэніровачны лагер для дзяцей да 14 гадоў. Мерапрыемства адбудзецца з 19 па 23 чэрвеня і будзе ўключаць практычныя і тэарэтычныя заняткі.

**Галоўнымі лектарамі лагера стануць амерыканскія спецыялісты Крыс Дыял і Юсцін Бэрры, якія прадстаўляюць арганізацыю «Баскетбольнае пасольства».**

Склад гульцоў-удзельнікаў праекту быў сфарміраваны галоўнымі трэнерамі зборных Беларусі **Эдуардам Кеменам** і **Вікторыяй Дацун.**

## На Смаргоншчыне правядуць спаборніцтвы па экстрэмальным бегу

**СМАРГОНЬ**

22 чэрвеня на тэрыторыі Смаргонскай памежнай групы пройдзе адкрыты чэмпіянат па экстрэмальным бегу. Экстрэмальны бег – гэта бег, падчас якога неабходна пераадольваць натуральныя і штучныя перашкоды. Гэта відовішчнае спаборніцтва, якое ўключае ў сябе пераадоленне водных перашкод, перанос мяшкоў з пяском, пераправы, сцены, ямы з граззю.

Кожнага ўдзельніка будуць чакаць незабыўныя эмоцыі, добры настрой, палявая кухня, чай, душ, памятны медаль, імянны нагрудны нумар.

## «Смаргонь» і «Ашмяны» прайшлі ў 1/16 Кубка Беларусі па футболе

У 29-м розыгрышы Кубка Беларусі завяршыўся этап 1/32.

Чысцінскі «Андэрдог» прайграў дома «Лідзе» – 1:3. Каманда з Гарадзеншчыны утрымлівала перавагу на працягу ўсяго матча. **Кірыл Леановіч** адкрыў лік у гульні, а **Кірыл Пасевіч** вызначыўся дублем. «Чысць» змагла забіць адзін гол на апошняй дзесяцімінутцы сустрэчы. Сяргей Новік «размачыў» лік сваёй каманды.

Да ФК «Андэрдог» далучыўся ФК «Маладзечна», які таксама не зможа больш пазмагацца за Кубак. Маладзечанская каманда прайграла дзяржынскаму «Арсеналу» – 0:5.

Больш удала склаліся матчы для «Ашмянаў» і «Смаргоні». «Ашмяны» абыгралі «Хімік» са Светлагорску – 2:1. **Аляксей Скварчэўскі** і **Дзмітрый Купнеўскі** забілі галы ў першыя 10 хвілін матчу. **Арцём Камароў** з «Хіміка» вызначыўся з пенальці, але светлагорская каманда не змагла дацiснуць саперніка.

«Смаргонь» атрымала доўгачаканую перамогу. Сморгонцы абгулялі «СМІаўтатранс» з разгромным лікам – 6:0. Адразу шэсць гульцоў смаргонскага калектыву адзначыліся галамі: **Мікіта Шугункоў, Віталь Ганіч, Дзяніс Якубовіч, Павел Дзямідчык, Сямён Смунёў, Антон Сарокін.**

13 чэрвеня ў Доме футбола адбылося лёсаванне 1/16 фіналу розыгрышу Кубка Беларусі сезона-2019/20. На дадзеным этапе ў барацьбу за трафей уступаюць каманды Вышэйшай лігі. «Ашмяны-БДУФК» згуляюць з «Іслаччу», а «Смаргонь» сустрэнецца з «Гомелем». Матчы запланаваныя на 27-28 ліпеня. Яны пройдуць на палях у Ашмянах і Смаргоні.

## «Ашмяны» перамаглі «Маладзечна» і іншыя вынікі чэмпіянацкіх матчаў выхадных

У выхадныя прайшлі тры гульні з удзелам каманд Павілля. У Другой лізе сустрэліся «Ашмяны-БДУФК» і ФК «Маладзечна». Ашмянцы перамаглі сапернікаў з Маладзечна з лікам 5:1. Чысцінскі «Андэрдог» прайграў «СМІаўтатрансу» 3:1. А «Смаргонь» займела першую перамогу ў чэмпіянаце. Смаргонцы перамаглі «Баранавічы» 4:1.

## Дзе будуць гуляць у футбол у суботу і нядзелю

22 чэрвеня пройдзе 10 тур у Другой лізе. ФК «Маладзечна» сустрэнецца з «Уздой», ФК «Андэрдог» згуляе з «Клецкам», а «Ашмяны» прымуць «СМІаўтатранс».

22 чэрвеня ў рамках чэмпіянату Першай лігі «Смаргонь» згуляе са светлагорскім «Хімікам».

**Аддзел інфармацыі.**




Юныя фехтавальшчыцы сустракаліся ў Маладзечне.

# У Маладзечне і Вілейцы прайшлі спаборніцтвы сярод школьнікаў

**З 10 па 19 чэрвеня ў Мінскай вобласці адбылася Рэспубліканская спартакіяда школьнікаў па летніх відах спорту.**

Урачыстае адкрыццё прайшло 15 чэрвеня ў Маладзечне. На цырымоніі прысутнічалі міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук** і міністр адукацыі **Ігар Карпенка,** кіраўнік суддзейскай калегіі спартакіяды, алімпійская чэмпіёнка **Антаніна Кошаль** і прадстаўнікі Мінаблвыканкама.

У праграму спаборніцтваў уключаная 21 спартыўная дысцыпліна.

Спартакіяда праводзілася ў тры этапы. Першы уключаў раённыя і гарадскія спаборніцтвы. У іх прынялі ўдзел больш за 170 тысяч школьнікаў. Другі этап праводзіцца ў абласцях і Мінску сярод зборных каманд. На трэцім фінальным этапе спаборнічалі каля 2,5 тысячы спартсменаў. Вынікі спартакіяды падвялі 19 чэрвеня ў Слуцку.

У Маладзечне юныя спартсмены змагаліся ў шасці дысцыплінах: вольнай і грэка-рымскай барацьбе, валейболе, настольным тэнісе, фехтаванні, шахматах і шашках. У Вілейцы школьнікі спаборнічалі ў плаванні і футболе.

Пераможцам зімовага этапа спартакіяды стала Магілёўская вобласць. А абсалютным чэмпіёнам будзе вызначаны рэгіён (вобласць ці Мінск), які набярэ ў агульнакамандным першынстве найбольшую колькасць ачкоў у спаборніцтвах па зімовых і летніх відах спорту.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейскі выратавальнік стаў прызёрам Чэмпіянату свету па бодзібілдзінгу і фітнэсу

**ВІЛЕЙКА**

**На Чэмпіянаце свету па бодзібілдзінгу і фітнэсу WABBA International начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі, бодзібілдзер Ягор Роўда заняў трэцяе месца ў намінацыі «Men physique».**




Сёлета чэмпіянат ладзілі ў Львове (Украіна).

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Спецыфічная форма мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, якой уласціва з'едлівае высмейванне розных адмоўных з'яў.
2. Тонкая вяровачка, звітая з некалькіх кручаных нітак ці некалькіх пасмаў.
4. У гэтую краіну накіравалі Пімена Панчанку ў 1944 годзе ў якасці ваеннага журналіста.
9. Кожная з дзвюх сіметрычных, замацаваных на падстаўцы або навешаных на восі частак вагаў у выглядзе талерак, на адной з якіх кладзецца груз для ўзважвання, на другой – гіры.
10. Які ўгінаецца пры націсканні, не робіць уражання цвёрдасці, шчыльнасці пры датыканні.
11. Рака ў Канадзе, якая стала сімвалам невераготнага багацця.
12. Невялікі марскі заліў, прыгодны для стаянкі суднаў.
13. Вельмі кароткі прамежак часу; імгненне, міг.
14. Гусіны тлушч.
18. Праверка, выпрабаванне.
19. Старажытнае скандынаўскае і ірландскае народнае гераічнае сказанне.
22. Такая колькасць дроў, саломы, бульбоўніку, што можна абхапіць абедзвюма рукамі і панесці, ахапак.
23. Галоўны горад дзяржавы, месцазнаходжанне ўрада і ўрадавых устаноў.
26. Самая распаўсюджаная жывёліна у Шры-Ланцы.
27. Адзіная птушка, якая не мае крылаў.
28. Горад, дзе ў 1432 годзе адбыўся дзяржаўны пераварот. Жыгімонт Кейстутавіч захапіў у палон сям'ю Вялікага князя Свідрыгайлы.
30. Лінейка або табліца з дзяленнямі ў розных прыборах.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Гэтую навуку часам называюць навукай самага далёкага мінулага.
5. У сярэднявечча гэты элемент адзення лічыўся статуснай рэччу. На адным з убораў караля Францыі Францыска Першага іх было больш за 16 тысяч.
6. Метад ваеннага навучання, заснаваны на механічнай дысцыпліне і бяссэнсавым завучванні прыёмаў ваеннай справы.
7. Частка твару ад скулы да ніжняй сківіцы.
8. Гранічная і дакладная сцісласць (выказвання, выражэння).
12. Сорамна, непрыемна, агідна.
15. Становішча, пры якім ніхто і нішто не пагражае.
16. Пераварот у паветры цераз галаву (уперад або назад).
17. Хуткі і бесперапынны рух у розных напрамках.
20. Фрукт, які абавязкова павінен быць на стале ў Кітаі падчас святкавання Новага года.
21. Першы аб'ект пакланення ў старажытных людзей.
22. Мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей.
24. Яго замалёўка Нясвіжскага замка ўпрыгожвала беларускую купюру ў сто тысяч рублёў.
25. Так называецца прэмія Міжнароднай супольнасці ілюзіяністаў.
29. Першае прыручаная жывёла.
31. Тое, да чаго імкнуцца, чаго жадаюць дасягнуць.

## Адказы на крыжаванку з №24

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Лужа. 2. Хлопец. 5. Геаграфію. 6. Галіна. 7. Лава. 10. Люкс. 11. Гайдук. 12. Хмарна. 13. Хрыбет. 14. Ладдзя. 18. Дуга. 20. Пароль. 21. Лаванда. 22. Снег. 24. Дранікі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Глыбокі. 4. Парафраза. 8. Парфіра. 9. Гравюра. 11. Горад. 12. Хрэн. 15. Свісток. 16. Чыгунка. 17. Правата. 19. Лянок. 20. Прэстыж. 23. Гідра. 26. Ласіха.

## ● ГАРАСКОП 21-27 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Цяпер для вас ідэальны час для падарожжаў. Любая дарога будзе не проста ў радасць. Вандроўка менавіта ў гэты час дасць вам мора пазітыўных уражанняў, і нават больш – вы абавязкова здабудзеце нешта важнае, што дапаможа зразумець Сусвет і саміх сябе яшчэ глыбей.



**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце асцярожныя. Усё, што вы напрацавалі цяжкай працай, пад пагрозай. Не давярайце зайздросным людзям, і азірайцеся за спіну. Калі вы будзеце дзейнічаць акуратна, то зможаце павялічыць свае набыткі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы разважаеце, ці не пачаць новую справу, смела бярыцеся за лейцы! Цяпер удача сама плыве вам ў рукі. Толькі падрыхтуйце трывалую сетку, якая вытрымае нават буйную рыбіну. Якасная падрыхтоўка і праверка дэталяў – палова поспеху.



**РАК.** Вы будзеце проста купацца ў любові і пяшчоце блізкіх! Вам цяпер проста неабходна, каб нехта ўзяў на ручкі, прытуліў і даў моцы верыць у сябе. І вашы блізкія шчодра дадуць вам патрэбнае.



**ЛЕЎ.** Трэба загаддзя планаваць, як распараджацца грашыма. І тады вы будзеце іх укладаць, а не траціць. Таму што калі імпульсіўна купляць, што хочацца, то грошай ніколі не будзе хапаць не тое што на мары, але і на самае патрэбнае.



**ДЗЕВА.** Апошнія дні былі для вас напружаныя і няпростыя. Але цяпер час расслаблення і аднаўлення сіл. Паклапаціцеся пра сябе. Часам адпачынак трэба сплanаваць так жа дакладна, як працу. Тады вы атрымаеце ад яго найбольшы эфект.



**ШАЛІ.** Будзьце асцярожныя з самімі сабой. Вас усё будзе раздражняць, вы прыпомніце старыя крыўды. Але не варта зацыклівацца на мінулым. Калі вам штосьці не даспадобы – прама пра гэта кажыце. Не трымайце ў сабе незадаволенасць, інакш яна вылезе вам самім бокам.



**СКАРПІЁН.** Гэта адназначна ваш час. Працуйце, ствараце, кахайце! Вам будзе шанцаваць ва ўсім, усё будзе ісці лёгка. Памятайце, што перыяд такога ўздыму зменіцца больш спакойным тэмпам.



**СТРАЛЕЦ.** Часам варта падумаць, як зрабіць добрае іншым людзям. Гэта пойдзе на карысць не толькі ім, але ў першую чаргу вам самім. Дабро робіць прыгажэйшымі.



**КАЗЯРОГ.** Для вас цяпер перыяд наладжвання старых сувязяў. Пазваніце людзям, з якімі даўно не размаўлялі.



**ВАДАЛЕЙ.** Сусвет не спрыяе тым, хто не дзякуе за добрае. Прысвяціце час шчырай падзяцы людзям і Сусвету за тое, што ў вас ёсць ужо. Толькі тады можна разлічваць на большае.



**РЫБЫ.** Падумайце пра дзіцячыя захапленні і мары. Так знойдзеце адказ на актуальнае пытанне.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 8 | 2 | | | | 5 | |
| | | | 9 | 6 | | 4 | | |
| 2 | 4 | | | 5 | | | | 3 |
| | 3 | | | 1 | 4 | | | |
| 9 | 6 | | | 2 | | 1 | | |
| | | | 7 | 9 | | | | |
| | 1 | | 5 | | | | 8 | |
| | 5 | 7 | 6 | | | | | |
| | 2 | | | 8 | 1 | | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Бібліятэка Мураванай Ашмянкі – сярод пераможцаў рэспубліканскага конкурсу

АШМЯНЫ

**На мінулым тыдні падвялі вынікі XVII Рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры».**

Сёлета ў ім прынялі ўдзел амаль сорак публічных бібліятэк Беларусі, лепшыя кніжніцы былі названы ў чатырох намінацыях.

Журы ў першую чаргу ацэньвала значнасць і навізну праектаў, што рэалізуюць бібліятэкі з мэтай прапаганды ідэй беларускасці, нацыянальнай спадчыны, гісторыі, літаратуры, мовы, народнай культуры і, канешне, падтрымкі чытання.

У намінацыі «За навацыі ў галіне бібліятэчнай справы» першую прэмію атрымала сельская бібліятэка аграгарадка Мураваная Ашмянка Ашмянскага раёна. Узнагародай адзначана праца калектыву ў межах міжнароднага супрацоўніцтва.

Фота osh.by.

Прэзентацыя праекта.

Тут рэалізаваны праект «Стварэнне клуба старастаў вёсак КУТ», адкрыты сацыяльна-інфармацыйны цэнтр, працуе валанцёрская група па абслугоўванні людзей сталага ўзросту.

Праект быў прафінансаваны Еўрасаюзам у межах праграмы міжнароднай гуманітарнай дапамогі.

**Osh.by.**

## Чытайце праз тыдзень

- **Калі несвоечасова косяць траву, двары не толькі набываюць неэстэтычны выгляд, але і ствараюць пажаранебяспечныя сітуацыі. Гэта асабліва крытычна ў гарачыя дні. Пісаць скаргі, зрабіць самому ці ёсць яшчэ варыянты? У нас ёсць для вас адказы!**

## 22 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночны, 4-5 м/с

| Горад | Ноччу | Днём | Надвор'е |
|---|---|---|---|
| Астравец | +18 | +23 | Значная воблачнасць |
| Мядзел | +19 | +21 | Пераменная воблачнасць |
| Смаргонь | +17 | +22 | Пераменная воблачнасць |
| Вілейка | +18 | +22 | Пераменная воблачнасць |
| Ашмяны | +17 | +23 | Воблачна |
| Маладзечна | +19 | +23 | Пераменная воблачнасць |
| Валожын | +18 | +22 | Хмарна з праясненнямі |

Усход 4.38
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.13

Усход 0.36
Захад 9.38
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +3,7°С у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +28,5°С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,3 мм у 2012 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!

### Ідзе падпіска на другое паўгоддзе

**Падпісацца на «РГ» можна:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цісනем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 27 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 81 рубель.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да смяротнага пакарання?

**Марк Рачэўскі, студэнт:**

– Я супраць смяротнага пакарання. Чаму мы павінны караць смерцю іншых людзей? Атрымліваецца, што мы не лепш за тых, хто забівае. Дастаткова, каб яны пажыццёва адседзелі за забойства. Смерць смерцю, але мы не павінны быць варварамі.

**В.Станкевіч, адміністратар:**

– Напэўна, я за, калі чалавек нешта сур'ёзнае зробіць. Дакладна не магу сказаць. Бываюць жа памылкі ў следстве. А калі нейкія жорсткія злачынствы, то я, вядома, за.

**Ганна Стэфановіч, юрыст:**

– За смяротнае пакаранне. Я лічу, што тыя, хто забірае жыццё людзей, у іх таксама трэба яго адняць. Іншая рэч, што мала злачынстваў доказана і могуць невінаватага пакараць смерцю. Толькі з-за гэтага можна зрабіць папраўку.

**Аляксандр Вярцінскі, усталёўшчык лікавага праграмнага кіравання:**

– Хутчэй, што за. Чым прасцей судовая сістэма, тым больш будзе знаходзіцца людзей, якія будуць адчуваць сябе ў бяспецы. Калі чалавек забіў пецярых-шасцярых, то саджаць яго на пажыццёвае няма сэнсу. Чалавечае жыццё залежыць ад чалавечага жыцця.

**Яўген Янушкевіч, прадавец:**

– Я супраць. Калі чалавек у нечым вінаваты, то навошта пазбаўляць яго жыцця, калі можна яго асудзіць на пажыццёвае.

**Раман Шаўцоў, географ:**

– Я супраць. Па-першае, з-за чалавечага фактару. Узнікаюць памылкі, якія немагчыма будзе выправіць. Не ўваскрэсіш жа чалавека, калі высветліцца, што ён невінаваты. Застанецца сказаць: «Як жа няёмка выйшла». А калі ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне, можна палепшыць адносіны з ЕС.

**Карына Заблоцкая, хатняя гаспадыня:**

– Я за смяротнае пакаранне ў Беларусі. Некаторых злачынцаў рэальна трэба пакараць смерцю.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1260) 21.06.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 951. Падпісана ў друк у 9.00 20.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.